**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 42 (863) 20 кастрычніка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

УНП 390530797
## Рыба недели!
ЛАГУНА
■ ул. Энгельса, 18 ■ ул. Садовая, 26-Б
вчера 6.15
с 20 по 27 октября
горбуша свежемороженая
сегодня 5.49

**На 128-я ўгодкі з Дня нараджэння мастака Язэпа Драздовіча грамадскасць з Глыбокага, Германавічаў, Падсвілля, Шаркоўшчыны і Мінска наведала яго магілу ў Ляплянах.**
*Фота Зм. Лупача.*



Центр КОМПЬЮТЕРНЫХ УСЛУГ
г. Глубокое
✓ Ремонт компьютеров, ноутбуков, мониторов
✓ Чистка системных блоков и ноутбуков
✓ Установка и настройка ОС Windows
✓ Настройка сети Интернет, WiFi
✓ Установка антивирусного ПО
✓ Восстановление информации
✓ Обслуживание организаций и офисов
Скидка ЕСТЬ!
САМЫЕ НИЗКИЕ ЦЕНЫ В ГОРОДЕ!!!
ВЫЕЗД И ДИАГНОСТИКА БЕСПЛАТНО!!!
МТС (033) 372-37-37 Life (025) 537-71-34

УСМЕШКА
група ў аднакласніках ok.ru/group52352610599041
МАГАЗІН ДЗІЦЯЧАГА АДЗЕННЯ, АБУТКУ
АД 0+ - 12-13 ГАДОЎ (рост да 164 см)
ДЗІЦЯЧЫЯ ТАВАРЫ, ЦАЦКІ
Новае паступленне адзення, абутку, цацак!!!
Рэжым работы:
9.00 – 18.00
Субота 9.00 – 17.00
Нядзеля 9.00 – 16.00
вул. МАСКОЎСКАЯ, 20
тэл. 8-029-519-48-83
8-029-719-48-83
8-02156-5-44-51
ЗАКАЗ І ДАСТАЎКА НА ДОМ
ЗАПРАШАЕМ ЗА ПАКУПКАМІ!
ІП Ляўшыцкі С.І., УНП 391053881

ВОКНЫ, ДЗВЕРЫ ПВХ
Рамы балконныя
Дзверы ўваходныя і міжпакаёвыя
Абаронныя ралеты
Гаражныя вароты
Бясплатная дастаўка па гораду, растэрміноўка плацяжу, гарантыя якасці, гнуткая сістэма зніжак
мтс: (029) 716-28-26
(029) 821-32-52
м-н «Крышталь», вул. Леніна, 114-а
ІП Раманчук Д.С.; УНП 300018852

МОЛОДЕЧНЕНСКИЕ
ОКНА ПВХ
Тел. 8(029) 641-62-94(Velcom)
8(029) 857-35-43 (МТС)
ООО «РЕКОМПЛАСТ» г.Молодечно (УНН 690450197)

**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

Магазин БЕГЕМОТ, г. Глубокое, ул. Ленина, д. 87, 1 этаж
* ОКНА и ДВЕРИ
от дешевых до элитных
*окна и двери ПВХ
*тёплые откосы в день монтажа!
*рамы балконные, москитные сетки
*двери металлические в наличии
*двери межкомнатные в наличии и под заказ
*жалюзи горизонтальные и вертикальные
* КУХНИ и ШКАФЫ-КУПЕ
по индивидуальным размерам
замер, доставка, установка
доставка по городу - БЕСПЛАТНО
работаем с кредитами на реконструкцию и строительства жилья
отличное качество! низкие цены!
МТС: (029) 518-62-35

УНП 391059864
Постоянным клиентам -- скидка!
новые возможности твоего авто
"BAVARIA"
АВТОЗАПЧАСТИ
в наличии и под заказ
г. Глубокое, ул. Ленина 14/1 Тел МТС: 029 219 05 05

ЦЕМЕНТ В НАЛИЧИИ
МАРКА ПЦ 500-Д20
4 руб. 20 коп.
окна ПВХ
Межкомнатные двери
Входные двери
Секционные ворота
Шкафы-купе
Жалюзи / Рольшторы
г.Глубокое, ул. Дзержинского 29а
8 (02156) 2-65-66
8 (029) 506-50-10 мтс.
8 (044) 511-50-10 вел.
САМЫЕ ДЕШЁВЫЕ ДУШЕВЫЕ УГОЛКИ
ЧТУП "ОД строй" УНП 390506774

УНП 790543063
ОДЕЖДА
для взрослых и детей
низкие цены!
Приглашаем с 9.00 до 19.00
Торговый дом "Для Вас", ул. Ленина, 44-А

ЧТУП "Тайдик плюс"+375 29 214-34-55 (мтс).
Натяжные потолки + светильники
Плитка. Камень. Ламинат. Линолеум.
Жидкие обои. Двери. МДФ. ПВХ, Сайдинг.
Всё для кровли, фасада и другое...
Работаем с кредитами на реконструкцию и строительство.
Помощь в доставке и рассчёте материалов
Глубокое, ул. Гагарина, 4 рынок "Верас" УНП 391057606

Компьютерный сервис «Фаворит»
- Продажа компьютеров, ноутбуков, офисной техники и аксессуаров.
- Ремонт, настройка и модернизация компьютеров, ноутбуков, оптимизация, чистка.
- Установка любого программного обеспечения (антивирус, ОС Windows XP, 7, 8, 10, Microsoft Office и т.д.)
- Ремонт принтеров и многофункциональных устройств.
- Заправка, ремонт и восстановление картриджей.
- Настройка и установка беспроводных и локальных сетей.
- Удаление вирусов и баннеров, блокировка рекламы в интернете.
- Наличный и безналичный расчёт с рассрочкой платежа!
Выезд на Дом
Ремонт в сжатые сроки и с гарантией
Низкие цены, скидки на ремонт
Бесплатный выезд и диагностика!
+375 33 695-85-36 МТС
+375 33 395-80-00 МТС
+375 29 395-80-00 Велком
г. Глубокое, ул. Московская 10, второй этаж

магазін «Майстар» на Маскоўскай, 64
тэл.: 8 (02156) 5-55-55
УНП 391530924; ПГУП "Куршавель"
Газавыя катлы DAEWOO
гарантыя 5 гадоў
DGB 160 – 9.500.000/ 950р.00 кап.
DGB 200 – 9.900.000/ 990р.00 кап.
Электраінструмент
ИНТЕРСКОЛ Bort BOSCH VORTEX
Паступілі ў продаж катлы на цвёрдым паліве:
12; 16; 20; 25; 35 кВт
батарэі ацяплення, бензапілы, мотакосы, кампрэсары, мойкі высокага ціску
Сшыты поліэтылен: wavin, uponor; металапласт APE; гідрафоры; насосы: глыбінныя, дрэнажныя і каналізацыйныя; масляныя радыятары; электраканвектары

ISSN 2077-8023




Рэклама ў газеце «ВГ», мтс 8(029) 813-99-99

**Полацкі раён**

# Хутка загудзяць турбіны

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ паўгода назад былі выкананы асноўныя бетонныя работы на ўзводзімай на рацэ Заходняя Дзвіна Полацкай ГЭС з пяццю гідравузламі.**

Яе магутнасць неўзабаве, праз лічаныя месяцы дасягне 21,6 МВт, штогод новая станцыя пачне выпрацоўваць больш 112 млн. кілават/гадзін электраэнергіі. Усяго ж на галоўнай воднай артэрыі вобласці запланавана будаўніцтва цэлага каскаду з чатырох гідраэлектрастанцый. Ужо ў пачатку 2017 года паралельна са станцыяй паблізу Полацка будзе потым запушчана ў эксплуатацыю і Віцебская ГЭС. Затым пачнецца ўзвядзенне крыху меншых ГЭС у Верхнядзвінскім і Бешанковіцкім раёнах. Гэта дазволіць сэканоміць тысячы тон газу, які ідзе на выпуск энерганосьбітаў, станоўча адаб'ецца на эканоміцы рэгіёна. Пакуль жа на Полацкай ГЭС большая частка будаўнічых работ ўжо завершана. Напрыканцы лета пачаўся мантаж гідрацыліндраў пад кантролем інжынераў кампаній пастаўшчыкоў з Расіі і Сербіі. Адначасова ў вялізным памяшканні будучай станцыі спецыялісты кампаніі "Mavel" ужо пачалі мантаж асноўнага абсталявання на ўсіх гідраагрэгатах. Паступова гіганцкае збудаванне набывае выгляд будучага жывога арганізма, пазбаўляецца будаўнічага смецця і адходаў. Вопытныя спецыялісты ўстанавілі пяць магутных валоў турбін станцыі, якія дадуць ёй жыццё. Галоўнае, што свет і цяпло людзям пачнуць выпрацоўваць больш танныя і даступныя прыродныя крыніцы вады з выкарыстаннем сучасных тэхналогій. Мясцовая ГЭС неўзабаве стане самай буйной у краіне і апярэдзіць па магутнасці станцыю, запушчаную паблізу Гродна.

**Талачынскі раён**

# Зноў рэкордны ўраджай

■ Станіслаў Раманчук.

**У гэтым годзе аграрыяў вельмі выпрабоўвалі складанейшыя ўмовы надвор'я, але там, дзе стараліся прытрымлівацца тэхналогій земляробства, атрымалі выдатныя вынікі.**

Сёлета вясной сур'ёзна пацярпелі ад дажджоў і палеткі ў Талачынскім раёне, дзе потым была засуха, а па ўчастках зерневых, кукурузы моцна двойчы каткам праляцеў ураган. Аднак нягледзячы на гэта, па-ранейшаму флагманам па вырошчванні бульбы ў краіне застаўся мясцовы кансервавы завод. Завадчане вырошчвалі другі хлеб на значных плошчах, нават на 900 гектарах. Яны справіліся з уборкай клубняў меней за месяц і накапалі 45 тысяч тон пры вялікай ураджайнасці 500 цэнтнераў з гектара. Для параўнання, астатнія гаспадаркі ўсёй вобласці ў бульбасховішчы звезлі з палёў крыху больш 30 тысяч тон. Дарэчы, завод мае два буйныя сучасныя склады для захоўвання прадукцыі палепшаных селекцый, на якую ёсць устойлівы попыт. Ужо ў сярэдзіне лета добра прадаваўся гатунак ранняй сталовай бульбы "ўладар". На прадпрыемстве аддаюць перавагу заходнім сартам бульбы, хоць вырошчваюць і сярэдняспелую. Найбольш добра расце бульба гатункаў "астэрыкс" і "рэд скарлет", такія іх вялікія клубні проста прыемна ўзяць у рукі. Акрамя другога хлеба завод выраблае і крухмал з бульбы, частку якога прадае ў Расію. Завадчане маюць і свой вялізны сад, выпускаюць штогод сотні тысяч дал вінаградных і пладова-ягадных він палепшанай якасці. Завод таксама выдатна працуе і на хлебнай ніве, намалаціў сёлета амаль 16,6 тысяч тон збожжа пры ўраджайнасці пад 40 цэнтнераў.

**Докшыцкі раён**

# Хто шукае, той знаходзіць

■ Кастусь Александровіч

**У многіх вытворцаў, асабліва ў сельскай мясцовасціцяперапускаюцца рукі ад шматлікіх цяжкасцяў, даўгоў і розных праблем.**

Аднак як бы складана не было і працаўнікам сельгаспрадпрыемства "Таргуны", што ў Докшыцкім раёне, яны рызыкнулі ўкласці сродкі ў дадатковую вытворчасць. Дырэктар ААТ Анатоль Бальшуноў старанна пралічыў і вырашыў займець яшчэ і ферму па вырошчванні трусоў. Гэтай справай у Беларусі займаюцца некалькі гаспадарак і фірм і маюць нядрэнныя вынікі. Ажыццявіць ідэю дапамагло тое, што для вушастых жывёлін не трэба было ўзводзіць новае памяшканне. У вёсцы Туміліавічы стаяла закрытая даволі яшчэ дабротная прасторная лазня. У ёй зрабілі рамонт даху, уставілі новыя вокны з шклопакетаў. Трусіныя домікі ў два паверхі зрабілі з драўніны ўласнымі сіламі. У самой трусінай ферме чыста, светла і цёпла, захоўваюцца ўсе ўмовы і рацыён кармлення гэтых цікавых і жвавых звяркоў. Закупілі ж сюды спачатку 220 маладых жывёлін, пераважна самачак нават пяці парод, сярод якіх чэшская, бургундская і самая вялікая па памерах фламберская. Загадваць новай фермай прызначылі дыпламаванага ветурача Валерыя Бычкоўскага. Ён разам з памочніцай кормяць звяркоў па тэхналогіі двойчы на дзень, яны добра растуць, а ўжо ў сярэдзіне восені трусіны статак папоўніцца новым пагалоўем.

# Аб самым надзёным

## АДНЫМІ ЗАКЛІКАМІ БЕЗ УКАРАНЕННЯ ПЕРАДАВЫХ ТЭХНАЛОГІЙ БЕЛАРУСЬ НЕ ВЫЙДЗЕ НА ЎСТОЙЛІВЫ РОСТ ЭКАНОМІКІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сітуацыя ж, між тым, у Беларусі цяпер няпростая, бо фінансы ў многіх беларускіх вытворцаў спяваюць рамансы, растуць страты ў дзяржсектары, працягваецца падзенне аб'ёмаў экспарту і змяншэнне валютнай выручкі на фоне далейшага спаду айчыннай эканомікі.**

Пытанне, як заўтра будзем жыць, развівацца, да чаго імкнуцца, хвалюе зараз не толькі простых людзей, думаюць аб гэтым і высокапастаўленыя асобы. Вось і ў беларускай сталіцы днямі кіраўнік дзяржавы заслухаў справаздачы ўрада і Нацбанка аб рабоце айчыннай эканомікі. Адначасова былі разгледжаны вынікі работы над праектамі прагноза сацыяльна-эканамічнага развіцця, праводзімай грашова-крэдытнай палітыкі і контуры дзяржаўнага бюджэту на наступны 2017 год. Напярэдадні сустрэчы з міністрамі і главамі абласцей А.Лукашэнка правёў рабочую сустрэчу з членамі сінода Беларускай праваслаўнай царквы, якая безумоўна ўплывае і на духоўны стан грамадства.

Сітуацыя ж, між тым, у Беларусі цяпер няпростая, бо фінансы ў многіх беларускіх вытворцаў спяваюць рамансы, растуць страты ў дзяржсектары, працягваецца падзенне аб'ёмаў экспарту і змяншэнне валютнай выручкі на фоне далейшага спаду айчыннай эканомікі. Як на грэх, стала ліхарадзіць і суседку Расію, якая адчувальна перакрыла для нас нафтавы вентыль, душыць высокімі несправядлівымі цэнамі на газ і да таго ж стала абмяжоўваць пастаўкі беларускага малака і мяса ўжо з дзясяткаў нашых прадпрыемстваў. Беларускі ж лідар асабліва застаўся незадаволеным, што першы год новай пяцігодкі, як і папярэднія, зноў аказваецца правальным. Калі так пойдзе і надалей, то рашэнні V Усебеларускага народнага сходу так і застануцца на паперы, рызыкуюць быць нявыкананымі.

Праўда, з іншага боку сёлета назіраецца меншы рост цэн, дачакаліся летам пасля працяглага перапынку нават дэфляцыі. Таксама можна парадавацца, што золатавалютныя рэзервы Беларусі пачалі расці, курс нацвалюты застаецца стабільным, у сярэдзіне лета ўдалося выйсці на станоўчае сальда знешняга гандлю. Хоць і няпроста з прытокам замежнай валюты, краіна справіцца з выплатамі замежнага доўгу, якія ў гэтым годзе перавысяць 3 млрд. долараў. Аднак прыходзіцца рабіць зноў знешнія пазыкі, разлічваем на далейшае супрацоўніцтва з МВФ, крэдыты якога самыя выгадныя. У цэлым жа замежны дзярждоўг краіны вялікі, а наша эканоміка, скажам шчыра, не вельмі канкурэнтназдольная на знешніх рынках, выжываем мы пераважна за кошт нафтаперапрацоўкі, продажу калійных угнаенняў, за кошт гандлю таварамі і прадуктамі ў асноўным з Расіяй.

Таксама ўжо зараз адчуваецца, што і наступны год будзе для беларусаў вельмі няпростым, заклалі ў праект дзяржбюджэту-2017 рост ВУП толькі 0,2 %, сёлета эканамічны спад дасягнуў 3 %. У любым выпадку з Крамлём прыйдзецца дамаўляцца, каб атрымаць 24 млн. тон нафты і больш прымальныя цэны на газ. Інакш нам не пазбегнуць далейшага падзення ўзроўню жыцця, бо даходы суайчыннікаў апошнім часам адчувальна зменшыліся. Насельніцтву трэба рыхтавацца да паступовага павышэння жыллёва-камунальных паслуг на фоне таго, што сітуацыя на многіх заводах і фабрыках пагоршылася, сталі ўзнікаць праблемы з занятасцю людзей (невыпадкова ставяць задачу штогод мець да 50 тысяч новых рабочых месц).

На той эканамічнай нарадзе гучалі тэзісы, што Беларусі і яе ўпраўленцам трэба перастаць плыць па цячэнні, а болей зарабляць уласнай працай, робячы стаўку на ўнутраныя рэзервы, веды і тэхналогіі. Аднак на двары ж зараз XXI стагоддзе, аднымі заклікамі, камандамі і дырэктывамі сыты не будзеш. Каб беларусам выйсці на траекторыю ўстойлівага росту, неабходна дзейнічаць так, як робяць развітыя краіны свету. Каб нам добра сябе пачуваць на сусветным рынку, краіне жыццёва неабходна як найхутчэй адмовіцца ад састарэўшых метадаў кіравання эканомікай, неабходна не толькі мадэрнізіраваць айчынныя прадпрыемствы, але і паварнуць іх тварам да рынку.

Праблема як раз у тым, што па-сутнасці сваёй (пра што вам скажа любы незашораны эканаміст) беларуская эканаміка застаецца нерэфармаванай і таму, на жаль, вельмі шмат залежыць ад спрыяльнага развіцця знешніх умоў. Пра гэта, дарэчы, перакаnаўча паведаміў прэм'ер-міністр А. Кабякоў на прайшоўшай нарадзе. У першую чаргу негатыўна ўплывае празмерная жорсткая прывязка і залежнасць ад той жа Расіі. Пуцін і не думае змяняць сваю крайне агрэсіўную знешнюю палітыку, а таму заходнія санкцыі супраць РФ будуць дзейнічаць яшчэ вельмі доўга, а мы прадоўжым, як вобразна заўважыў А. Лукашэнка, "целепаться". Хутчэй усяго прыйдзецца кожнаму з нас і ў далейшым жыць па "песіметрычнаму" сцэнарыю, як паспелі назваць дзяржбюджэт будучага года, бо, мяркуючы па ўсім, ніякіх перамен у эканамічнай палітыцы ў нас ніхто не збіраецца рабіць.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 20.10.16 | | | | Пятніца 21.10.16 | | | | Субота 22.10.16 | | | | Нядзеля 23.10.16 | | | | Пан. 24.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | 0 | +4 | +1 | 0 | +1 | +2 | +2 | +1 | +1 | +3 | +3 | +2 | +2 | +3 | +2 | +1 | +1 | +2 |
| Ціск | 757 | 758 | 758 | 758 | 757 | 757 | 756 | 756 | 755 | 755 | 755 | 755 | 755 | 755 | 756 | 757 | 758 | 759 | 760 |
| Вецер м/сек | 3 Пд | 3 Пд | 4 Пд-У | 3 Пд | 3 Пд | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 6 Пд-У | 5 У | 6 У | 7 У | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У | 6 Пд-У |
| Вільготнасць | 91 | 89 | 65 | 82 | 88 | 91 | 87 | 92 | 91 | 93 | 90 | 93 | 90 | 88 | 91 | 94 | 97 | 97 | 94 |

## Дзень за днём

**Беларусь падпісала з Кітаем дэкларацыю аб стратэгічным партнёрстве. Урад Беларусі прапанаваў перагледзець стаўкі ўвазных мытных пошлін у ЕАЭС. Новаабраныя дэпутаты парламента 6-га склікання пачалі сваю дзейнасць. Па росце цэн сёлета Беларусь абагнала зноў краіны былога СССР. За рысай беднасці сталі жыць ужо звыш 210 тысяч беларускіх сем'яў, больш паўмільёна чалавек. У Беларусі пакуль не плануюць болей павышаць пенсійны ўзрост. За апошніх паўтара года скарацілі толькі 863 дзяржслужачых з 48,5 тысяч працуючых. Беларусаў абавязалі паставіць апавяшчальнікі чаднага газу.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Улады ЗША, як пацвердзіла агенцтва Reuters, пачалі абмяркоўваць варыянты паставак праціўнікам рэжыму Б. Асада больш сучаснай зброі і авіяўдары па яго войсках.

**Ірак.** З авіяносца "Шарль дэ Голь" у Персідскім заліве самалёты Францыі пачалі наносіць авіяўдары па баевікам "Ісламскай дзяржавы" падчас аперацыі па ўзяцці Масула.

**Англія.** Услед за ЗША МЗС краіны ўпершыню рэзка абвінавацію Расію не толькі ў "распальванні грамадзянскай вайны" ў Сірыі, але і ў "саўдзеле ў ваенных злачынствах".

**Галандыя.** Міжнародная група следчых высветліла, што малайзійскі авіялайнер над Данецкам быў збіты рускай ракетай "Бук" з тэрыторыі пад кантролем сепаратыстаў.

**Расія.** Усяляк адмаўляючы доказы следчых груп па збітым у Данбасе Boeinq 777, як заявіла газета "Ведомости", Расія ўсё болей ізалюе сябе ад астатняга свету.

**Літва.** Беларускі палітолаг, выкладчык ЕГУ С. Богдан заявіў, што розныя групоўкі ў Крамлі даўно прашчупваюць варыянты змены А. Лукашэнкі, але шанцаў на поспех няма.

**ЗША.** Газета "Нью-Йорк таймс" заявіла, што У. Пуцін імкліва пераўтварае Расію ў бандыцкую дзяржаву і заклікала ўвесці новыя, больш жорсткія санкцыі супраць РФ.

**Расія.** Журналіст Б. Вішнеўскі заявіў, што хоць большасць расіян атраўлены ядам прапаганды, але горкую праўду пра збіты намі Боінг усё роўна прыйдзецца прызнаць.

**Англія.** Суд Лондана арыштаваў 41-гадовага брытанца Б. Сцімсана і абвінаваціў у тэрарызме, ён удзельнічаў у баявых дзеяннях пад Данецкам на баку сепаратыстаў.

**Алжыр.** На нефармальнай сустрэчы члены арганізацыі экспарцёраў нафты АПЕК дамовіліся аб зніжэнні ўзроўню здабычы да 33 млн. барэляў у суткі, цэны выраслі на 5 %.

**Расія.** Намеснік генпракурора РФ У. Маліноўскі абвінаваціў Беларусь у незаконных пастаўках летась 573 тысяч тон яблык і грыбоў, у 5 разоў болей сабранага там ураджаю.

**Мексіка.** Упершыню ў свеце ўрачы з Нью-Йорка сумесна з мексіканскімі калегамі правялі ўнікальную аперацыю і выратавалі жыццё дзіця, яно штучна нарадзілася ад трох бацькоў.

**Польшча.** ЕС выплаціць польскім фермерам кампенсацыю за непрададзеныя ўраджай яблыкаў з-за эмбаргу Расіі, большую частку ранейшага экспарту закупіла Беларусь.

**Эстонія.** Пасля закрыцця двух апошніх газет у краіне не засталося друкаваных выданняў на рускай мове, але тут папулярныя рускамоўныя інтэрнэт-версіі газет і штотыднёвікаў.

**Германія.** Пісьменнік Норман Олер высветліў, што А. Гітлер актыўна ўжываў наркотыкі для абязбольвання і стымуляцыі актыўнасці, іх рэгулярна давалі і нямецкім войскам.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Былы прэм'ер-міністр М. Чыгір заявіў, што спадзявацца толькі на адну Расію – гэта тупіковы шлях, трэба заўжды мець запасныя варыянты, жыць, як жыве ўвесь свет.

**Магілёў.** Урад Беларусі прапанаваў Еўрапейскаму банку ЕБРР прадаць стратэгічным інвестарам "Магілёўліфтмаш", піўзавод "Крыніца", "Мастоўдрэў", Белінвестбанк.

**Астравец.** Глава "Расатама" С. Кірыенка пацвердзіў, што корпус рэактара ўзводзімай Беларускай АЭС заменяць па просьбе беларускіх калег з улікам грамадскай думкі.

**Баранавічы.** З 3-й спробы расійскі бізнесмен С. Сакалоў набыў на аўкцыне мясцовы збанкрутаваны камбінат харчовых прадуктаў і пачне выпускаць там каву і потым сокі.

**Мінск.** Старшыня Савета рэспублікі М. Мясніковіч выклікаў пасла Туркменістана і папрасіў разлічыцца за будаўніцтва Гарлыкскага горнаабагачальнага камбіната.

**Беразіно.** Раніцай ля райцэнтра кілеры забілі мясцовага 43-гадовага самага багатага бізнесмена, яго цела знайшлі на аўтатрасе ў згарэўшым шыкоўным аўтамабілі Audi.

**Бабруйск.** У падвале завода трактарных дэталяў і агрэгатаў павесіўся 38-гадовы слесар з-за нізкіх заробкаў і ўведамлення нібыта аб звальненні з працы, але ён часта выпіваў.

**Ліда.** Пасля трыўмфальнага праезду сына-інваліда І-й групы А. Аўдзевіча 4 тысяч км на калясцы на руках праз усю Еўропу яго маці пазбавілі грашовай дапамогі па доглядзе за ім.

**Маладзечна.** Падчас уборкі бульбы ў калгасе "Усход-агра" МАЗ з клубнямі задні ходам пераехаў насмерць вучаніцу 8 класа СШ № 11, у якой былі праблемы са слухам.

**Валожын.** Са смуткам даведаліся тут аб смерці знакамітага земляка, ураджэнца Вішнева экспрэзідэнта Ізраіля, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Шымона Пераса.

**Барысаў.** Следчыя высветлілі, што прычынай смерці 4-х мужчын ва ўзросце ад 28 да 36 гадоў стала атручэнне ў лясным масіве наркотыкамі і псіхатропнымі рэчывамі.

**Мінск.** Старшыня праўладнага СБП М. Чаргінец зрабіў дзіўную заяву, што ў нас сотні пісьменнікаў, якія па ўзроўні таленту вышэй лаўрэата Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч.

**Ліда.** Суд раёна пакараў 2 гадамі абмежавання волі маладую жанчыну за назойлівае каханне да ксяндза і публічнае распаўсюджванне пра яго жыццё лжывых звестак.

**Астравец.** Пасля запуску БелАЭС, як пацвердзіла начальнік Беларускага гідраметцэнтра М. Германчук, насельніцтва будзе мець інфармацыю аб радыяцыйным фоне на станцыі.

**Раўбічы.** Галоўны трэнер зборнай Беларусі па біятлоне расійскі спецыяліст В. Пальхоўскі пакінуў сваю пасаду пасля 5 месяцаў працы, не дачакаўшыся пачатку новага сезона.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Ці выжывуць у ЕС любімыя беларусамі крамы д'юці-фры пасля Новага года?




■ TUT.BY

**З 1 студзеня 2017 года з-за адмены льгот на продаж алкаголю і цыгарэт могуць спыніць працу крамы бяспошліннага гандлю на мяжы Беларусі з Літвой і Польшчай з боку Еўрасаюза.** Дадзеную інфармацыю пaverдамляюць удзельнікі рынку. Зрэшты, шэраг гандлёвых аб'ектаў паспрабуюць адаптавацца да зменаў і працягнуць працу.

У адпаведнасці з артыкулам 14 (4) дырэктывы Савета Еўрасаюза 2008/118 / ЕС у краінах Еўрасаюза з 1 студзеня 2017 года спыняе дзейнасць падатковая льгота на падакцызныя тавары, якія набываюцца турыстамі і вязуць імі ў трэція краіны, у крамах бяспошліннага гандлю, размешчаных у сухапутных пунктах пропуску. Прэферэнцыі на такія тавары застануцца толькі ў гандлёвых кропках д'юці-фры ў аэрапортах і партах, сказала TUT.BY начальнік аддзела камунікацый мытнай службы Літвы Генрыка Рукшынене.

Ільвіную долю выручкі ў літоўскіх і польскіх д'юці-фры забяспечвае продаж спіртных напояў і тытунёвых вырабаў, якія як раз і ставяцца да падакцызных тавараў.

З іншых хадавых тавараў застаюцца парфумерыя сусветных брэндаў і кандытарскія вырабы. Вялікае пытанне - ці змогуць крамы выжыць з такім асартыментам.

Зрэшты, некаторыя ўладальнікі крамаў д'юці-фры ў Літве ўжо распачалі спробу кампенсаваць страты ад адмены льгот на продаж алкаголю і цыгарэт. Напрыклад, кампанія Globus Trade, у якой некалькі магазінаў бяспошліннага гандлю на мяжы Літвы і Беларусі, запусціла онлайн-краму. У ім беларусы могуць замовіць бытавую і кампутарную тэхніку, касметыку і парфумерыю, аксэсуары і дзіцячыя цацкі без выплаты ПДВ

## У Беларусі з'явіцца адзіны нумар экстранных службаў

■ news.tut.by

**У Беларусі з'явіцца аналаг 911 — адзіны нумар для выкліку экстранных службаў. Пра гэта на круглым стале ў мультымедыйным прэс-цэнтры Sputnik распавяла намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення арганізацыі медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Беларусі Людміла Жылевіч.**

— У хуткім часе нумар выкліку экстранных службаў стане адзіным — зараз высвятляюцца тэхнічныя аспекты, пытанні перадачы каналаў, — патлумачыла Людміла Жылевіч.

Цяпер, нагадаем, беларусам пры выкліку МНС трэба тэлефанаваць па тэлефоне 101, пры выкліку міліцыі — 102, пры выкліку хуткай - 103.

Тым не менш, па словах Людмілы Жылевіч, і сёння, пры звароце ў адну з экстранных службаў, дыспетчар не будзе прасіць перателефанаваць па іншым нумары, а сам пераключыць на канал патрэбнай службы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Падчас абласнога семінара-вучобы на полі ля вёскі Стаўры прайшлі тэст-драйвы па адбору лепшых сучасных культыватараў, сеялак, плугоў, каткоў для гаспадарак вобласці.

**Паставы.** Рабатызаваную ферму "Коўзаны" наведала група фермераў з Латвіі, беларусы купілі ў латышоў новую праграму камп'ютарных разлікаў арганізацыі кармлення кароў.

**Докшыцы.** Па ініцыятыве дырэктара А. Бальшунова ў сельгаспрадпрыемстве "Таргуны" Докшыцкага раёна ў былой лазні вёскі Тумілавічы пачалі вырошчваць трусоў пяці парод.

**Шуміліна.** У прыдарожных кустах паблізу вёскі Хрыпкі знайшлі труп забітага 33-гадовага намесніка дырэктара адной з фірм Віцебска, затрымалі маркуемага забойцу з Гарадка.

**Полацк.** Вакзал мясцовай чыгуначнай станцыі прызналі лепшым у Беларусі па выніках рэспубліканскага агляду-конкурсу па добраўпарадкаванні і санітарным стане.

**Мёры.** Суд пакараў рознымі тэрмінамі ад 2 да 3,5 гадоў турмы групу з пяці жыхароў раёна, якія за некалькі месяцаў скралі з ферм адной з гаспадарак 22 бычкі і прадалі мясам.

**Віцебск.** Міліцыя папярэдзіла арганізатараў дзіцячага псеўдаказацкага ваенна-патрыятычнага клуба, што працяг дзейнасці можа прывесці да іх дэпартацыі з Беларусі.

**Глыбокае.** Да новага ацяпляльнага сезона перавялі на мясцовыя віды паліва кацельню ў гарпасёлку Падсвілле і па адной у Віцебску і пасёлку Высокае ў Аршанскім раёне.

**Наваполацк.** Падпалкоўнік, начальнік Полацкага гаррайаддзела МНС Ф. Шарко не толькі стаў сведкам ДТЗ, але і аказаў першую дапамогу сур'ёзна параненай 49-гадовай жанчыне.

**Віцебск.** Праз двое сутак пасля ўдзелу ў спектаклі драмтэатра імя Я. Коласа раптоўна пайшоў з жыцця ў 68 гадоў вядомы артыст, вядучы майстар сцэны Валянцін Цвяткоў.

**Ушачы.** У райцэнтры прайшлі ўрачыстасці з нагоды 90-годдзя цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Еўдакіі Лось з ушанаваннем групы ветэранаў з 18 яе філіялаў.

**Браслаў.** У райаддзел міліцыі запрасілі двух сапраўдных грамадзян, уручылі ім падзякі і кветкі за дапамогу ў выяўленні і затрыманні вельмі п'яных вадзіцеляў за рулём.

**Полацк.** Шэраг агародаў мясцовых пенсіянераў бульдозер гаркамунгаса пераўтварыў у чыстае поле пасля таго, як людзі не захацелі ўзаконіць свае самазахопленыя ўчасткі зямлі.

**Віцебск.** Раніцай у адной з кватэр горада знайшлі труп 39-гадовай жанчыны, якую падчас спрэчкі на падпітку забіла шампурам 30-гадовая знаёмая, раней судзімая за рабаўніцтва.

**Шаркаўшчына.** Па дадзеных Белстата, раён разам з Лоеўскім і Ушацкім узначаліў тройку найгоршых у Беларусі з сярэднімі заробкамі людзей меней 500 рублёў у месяц.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

З 24 па 28 кастрычніка 2016 года акцыя – “Прыгарадны цягнік”

# Асноўны від злачынстваў у цягніках рэгіянальных ліній – крадзяжы

**І.В.Рыпінскі,**
*намеснік начальніка ААПП Глыбоцкага РАУС.*

У цягніках рэгіянальных ліній, якія курсіруюць па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, на працягу 9 месяцаў 2016 года зарэгістравана 79 (2015 г. 72, + 9.7%) злачынных дзеянняў, з іх па лініі крымінальнага вышукуздзейснена72(91.1%) злачынствы. Па 53 (67.1%) злачынствах вінаватыя асобы ўсталяваныя.

Рост колькасці супрацьпраўных дзеянняў адзначаны на тэрыторыі абслугоўвання УУС Гродзенскага (з 2 да 8), Гомельскага (з 6 да 13) і Брэсцкага аблвыканкамаў (з 18 да 20).

Асноўным відам злачынстваў, якія здзяйсняюцца ў цягніках рэгіянальных ліній, з’яўляюцца крадзяжы – 57 фактаў, таксама здзейснена 7 хуліганстваў, выяўлена 7 фактаў незаконнага звароту наркатычных сродкаў, 4 падробкі дакументаў, 3 махлярствы, 1 факт незаконнага перасячэння Дзяржаўнай мяжы.

У стане алкагольнага ап’янення здзейснена 16 злачынстваў, з якіх 11 крадзяжоў, 3 хуліганствы і 2 факты махлярства.

У цягніках рэгіянальных ліній, якія курсіруюць па тэрыторыі Віцебскай вобласці, на працягу 9 месяцаў 2016 года зарэгістравана:

**Віцебскі АЎСТ:** 2 (2015 г. – 4) злачынных дзеі (крадзяжы), усё па лініі крымінальнага вышуку. Па 2 злачынствах вінаватыя ўсталяваны.

У стане алкагольнага ап’янення (па скончаных злачынствах) у рэгіянальных цягніках здзейснена 1 злачынства (2015 г. – 1)

**Аршанскі АЎСТ:** 4 (2015 г. – 4) злачынных дзеі (крадзяжы), усе па лініі крымінальнага вышуку. Па 1 злачынству вінаваты ўсталяваны.

У стане алкагольнага ап’янення (па скончаных злачынствах) у рэгіянальных цягніках злачынстваў не зарэгістравана (2015 г. - 1).

На тэрыторыі абслугоўвання **Глыбоцкага РАУС** за дзевяць месяцаў бягучага года на аб’ектах чыгуначнага транспарту злачынстваў не зарэгістравана. На чыгуначных шляхах у рысе горада са смяротным зыходам траўміраваны адзін чалавек.

У мэтах забеспячэння грамадскага парадку, асабістай і маёмаснай бяспекі грамадзян у цягніках рэгіянальных ліній, на чыгуначных станцыях і прыпынкавых пунктах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 24 па 28 кастрычніка 2016 года на аб’ектах чыгуначнага транспарту праводзіцца асноўны этап адмысловага комплекснага мерапрыемства’ “Прыгарадны цягнік”.



■ Уладзімір Скрабатун

# У лесе ўсё яшчэ шмат грыбоў!

**Нягледзячы на першыя прымаразкі ў лясах усё яшчэ шмат грыбоў. Праўда, і месцы трэба ведаць, і грыбы, якія цяпер растуць.**

Натуральна, аўтар мае на ўвазе грыбы, якія адносяцца да сямейства радовак. Дарэчы, і папулярныя сярод грыбнікоў грыбы зялёнкі -- таксама з гэтага сямейства.

Наогул да радовак адносяць пад 2500 відаў грыбоў. І не ўсе яны ядомыя, ёсць і атрутныя. Трэба адразу і назаўсёды запомніць ядомыя радоўкі, каб выпадкова не назбіраць атрутных. Бо растуць яны адначасова і побач: і белыя, і жоўтыя, і фіялетавыя, і шэрыя...

Радоўкі любяць расці ў былых пясчаных кар’ерах, дзе цяпер расце малады сасоннік, ці проста маладыя пасадкі сасонніку на пясчаных пагорках.



Аўтар гэтых радкоў ад’ехаўся на ровары ўсяго кіламетра 1,5-2 ад гарадской мяжы ды заглянуў у першы ж сасоннік, які пасаджаны гадоў 8-10 таму. Радовак, як кажуць, хоць касой касі! Калі б была мэта сабраць 200-літровую бочку – без пытанняў! Самазвал? За тыдзень – можа быць, бо занадта ж вялікая ёмістасць!

Назбіраў дзве торбы. Як потым сталася, пасля чысткі дома – выйшла два рондалі (каструлі), разам 15 літраў.

Як завецца гэтая радоўка? Па грыбных каталогах – радоўка зямліста-шэрая.

# Справа пра інтэрнэт-ашуканцаў , “якія штрафавалі” беларусаў, перададзеная ў суд!

**Вы свядома ці па пэўнай спасылцы патрапілі на порнаграфічны сайт... Раптам, ваш камп’ютар блакуецца і на маніторы выскоквае карцінка з тэкстам ад імя Міністэрства ўнутраных спраў ці Камітэта дзяржаўнай бяспекі – з вас патрабуюць штраф у паўмільёна рублёў. І што рабіць? Аматары порнафільмаў ішлі і плацілі штраф махлярам, не падазраючы, што ні МУС, ні КДБ да гэтага не маюць дачынення!!**

Інтэрнэт-ашуканцам, што спаганялі штрафы з беларусаў ад імя праваахоўнікаў, пагражае ад 6 да 15 гадоў пазбаўлення волі. Пра гэта карэспандэнту БелТА паведаміў старэйшы пракурор аддзела пракуратуры вобласці па наглядзе за выкананнем заканадаўства ўпраўленнем Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Уладзімір Васільеў.

Віцебскія следчыя завяршылі папярэдняе расследаванне па крымінальнай справе ў адносінах дзвюх груп, якія складаюцца з трох жыхароў Оршы, аднаго мінчаніна і трох грамадзян Расіі, якія ад імя праваахоўнікаў патрабавалі ад беларусаў выплаты штрафаў за прагляд у інтэрнэце парнаграфічных матэрыялаў.

Справа складаецца з 39 тамоў. Усталявана, што з чэрвеня па снежань 2015 года “ахоўнікі маральнасці” распрацавалі і выкарыстоўвалі шкоднасныя камп’ютарныя праграмы, пры дапамозе якіх блакаваліся вэб-аглядальнікі (браўзары) у кампутарах і мабільныя прылады грамадзян. Акрамя гэтага, у камп’ютарныя сістэмы беларусаў уводзілася загадзя лжывая інфармацыя ад імя Міністэрства ўнутраных спраў ці Камітэта дзяржаўнай бяспекі пра неабходнасць выплаты штрафу ў памеры Br500-550 тыс. (недэнамінаваных). Пры гэтым камп’ютары “завісалі”, разблакаваць іх шэраговыя карыстальнікі не маглі.

Адна з груп выкрала пералічаныя грамадзянамі на вызначаныя тэлефонныя нумары больш за Br640 млн (недэнамінаваных), а другая – амаль Br30 млн (недэнамінаваных). “Падчас следства ўсталявана каля 120 пацярпелых – гэта жыхары розных рэгіёнаў Беларусі, людзі рознага ўзросту, полу і статусу. У рэальнасці грамадзян, якія аплацілі такія штрафы, значна больш. Зыходзячы з пералічаных сум, можна меркаваць, што ахвярамі зламыснікаў сталі больш тысячы чалавек. А вось з заявамі ў міліцыю звярнуліся толькі некалькі дзясяткаў”, – распавёў Уладзімір Васільеў.

МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Вам был нарушен Закон!
Ваш IP: 178.127.213.76;
Регион:
Город:
На оплату штрафа Вам отведено 12 часов.
Оплата через терминал
PAYNET БЕЛАРУСЬ
В терминале выберите меню интернет платежи- W1.BEL (Единый кошелек)
Наберите номер специального Единого кошелька Wallet One- №142739343474
Внесите денежные купюры в приемник и нажмите оплатить.
В течение суток Вам поступит сообщение об удачной оплате штрафа и код разблокировки.
Сумма к оплате: 1 000 000 руб.
*Учтите что терминал взимает комиссию при оплате штрафа.
Введите код
Разблокировать

Крымінальная справа ў адносінах да чатырох грамадзян Беларусі пракуратура Віцебскай вобласці накіравала для разгляду ў суд Аршанскага раёна і горада Оршы. У асобную вытворчасць вылучана крымінальная справа ў адносінах да расіян, якую для ажыццяўлення крымінальнага праследу ўказаных асобаў плануецца накіраваць у Расію.

Санкцыя артыкула за здейснены ў асабліва буйным памеры крадзеж маёмасці шляхам выкарыстання кампутарнай тэхнікі прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 6 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць вызначаныя пасады ці займацца вызначанай дзейнасцю ці без пазбаўлення.

***Паводле БЕЛТА.***

■ **Ю.В Заяц,**
*маёр міліцыі, часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС маёр міліцыі.*

# З 17 па 28 кастрычніка праводзіцца рэспубліканская прафілактычная акцыя “Час стаць прыкметным!”

У сувязі са скарачэннем светлага часу сутак, Дзяржаўтаінспекцыя рэкамендуе ўсім удзельнікам дарожнага руху, у цёмны час сутак (прамежак часу, які пачынаецца пасля заходу сонца і сканчаецца з узыходам сонца), пры перасоўванні па краі праезнай часткі, скрыжаванню дарогі ці знаходжанні на ёй пазначыць сябе светазваротнымі элементамі. Акрамя таго, асобы, якія кіруюць роварамі ці коннымі вазамі, пры эксплуатацыі такіх транспартных сродкаў, у цёмны час сутак абавязаны абсталёўваць іх ліхтарамі спераду белага колеру, ззаду чырвонага.



Дзеянні кіроўцы на 90% залежаць ад атрыманай ім візуальнай інфармацыі. У цёмны час сутак чалавечае вока ўспрымае толькі 5% ад таго, што ён у стане адрозніць днём. Таму, увечары, з 16 да 24 гадзін, па статыстыцы фіксуецца самая большая колькасць дарожных аварый.

Пераважная колькасць аварый – гэта наезды аўтатранспарту на пешаходаў, калі кіроўца занадта позна выяўляе ідучага па дарозе чалавека ў цёмны час сутак, асабліва, калі пешаход апрануты ў занадта цёмнае адзенне, якое зліваецца з фонам дарожнага палатна і навакольным асяроддзем, а ў горадзе гэта праблема пагаршаецца візуальным шумам, святлом фар ад сустрэчнай транспартнай плыні. Кіроўца заўважае пешахода з адлегласці не больш чым у 25-30 метраў, і нават пры хуткасці руху 50 км/гадзіну прыпынкавы шлях аўтамабіля перавышае дадзеную дыстанцыю.

У Правілах дарожнага руху, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, замацавана норма абавязковага выкарыстання светазваротных элементаў у цёмны час сутак пры руху па краі праезнай часткі, а таксама носіць рэкамендацыйны характар пры яе перасячэнні.

Кіроўцы бачаць пешахода, які мае светазваротныя элементы, са значна большай адлегласці ў параўнанні з пешаходамі без іх, адлегласць, з якога бачны “пазначаны пешаход”, павялічваецца ў 1,5-3 разы, рызыка наезду транспартнага сродку змяншаецца на 85%.

Паколькі чалавек увесь час рухаецца, прамяні святла падаюць на яго пад рознымі вугламі, адмысловае начынне святлавяртальнікаў дазваляюць адлюстроўваць святло ў тым кірунку, адкуль ён падае, святлоадбівальны элемент будзе бачны заўсёды: дождж, смуга, снег, град – не перашкода.

**Паважаныя дарослыя!** Выходзячы на вуліцу, асабліва ў вячэрні час, паклапаціцеся пра тое, каб Вы і Ваша дзіця былі пазначаны светазваротнымі элементамі, прымацаванымі да адзежы, сумачкі ці ранца. Будзьце ўпэўнены: кіроўцы не прапусцяць адбівальны сігнал такога талісмана!

# Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання адзіныя для ўсіх грамадзян

**Восень цалкам уступіла ў свае правы, дні становяцца ўсё карацейшымі, ночы даўжэйшымі і цямнейшымі. З палёў прыбіраюць апошні ўраджай, у гэты час дзікія жывёлы актыўна мігруюць у пошуках ежы, асабліва кукурузных палёў.**

■ **Аляксей Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Менавіта ў восеньскі час, часцей начны, вадзіцелі трапляюць у непрыемныя сітуацыі, якія звязаныя з дарожна-транспартнымі здарэннямі з раненнем або гібеллю жывёл, пашкоджаннем аўтатранспарту.

Толькі за кастрычнік бягучага года на тэрыторыі краіны зафіксавана больш за 20 ДТЗ з удзелам жывёл.

Таму, кіроўцам неабходна быць асабліва ўважлівымі пры пераездзе ўчасткаў лясных масіваў, паблізу збожжавых і кукурузных палёў. Калі ж здарылася ДТЗ з удзелам дзікай жывёлы, то кіроўца павінен у першую чаргу паведаміць аб тым, што здарылася, у найбліжэйшы аддзел унутраных спраў. Дзяжурны АУС накіруе да месца ДТЗ бліжэйшы нарад дзяржаўтаінспекцыі, паведаміць прадстаўнікам прыродаахоўных органаў (лягас, дзяржаўную інспекцыю, карыстальніка паляўнічых угоддзяў), на ўчастку якога адбылося ДТЗ, так як загінуўшая жывёла з'яўляецца ўласнасцю арандатара паляўнічых угоддзяў. Кіроўца ці яго пасажыры ні па якіх-небудзь прычынах не маюць права забіраць тушу загінулай дзікай жывёліны, ажыццяўляць раздзелку або перавозку тушы дзікай жывёліны без адпаведных дакументаў. Гэтыя дзеянні з'яўляюцца парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства, за якое прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.37 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, парушэннем Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, за што прадугледжаны штраф у памеры да 30 базавых велічынь, а ў выпадку, калі сума шкоды за загінуўшую жывёлу будзе перавышаць 100 базавых велічынь (бабёр, барсук, казуля, дзік, лось, алень), узбуджаецца крымінальная справа.



У многіх грамадзян слушна ўзнікае пытанне, мая машына разбітая, я сам пацярпеў ад дзікай жывёліны, а яшчэ і магу стаць вінаватым, так? Закон выразна рэгламентуе правілы паводзінаў у дадзеным выпадку. Таму, каб неяк кампенсаваць выдаткі на аднаўленне машыны, неабходна застрахаваць сваю маёмасць, захоўвайце хуткасны рэжым у месцах верагоднага з'яўлення дзікіх жывёл, будзьце ўважлівыя на дарозе, асабліва ў начны час і пры дрэнным надвор'і.

Каб не парушыць прыродаахоўнае заканадаўства і не стаць міжвольным парушальнікам неабходна строга выконваць закон. Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання адзіныя для ўсіх грамадзян.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоны: 8-02156-28670 – "гарачая лінія" кругласутачна, МТС 890-55-28, 897-23-02, 249-45-49.**

# Вельмі дарагой атрымалася рыба



**Затрыманне браканьераў на Гомельшчыне.** *Здымак з сайта інспекцыі*

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя сістэматычна інфармуе грамадзян аб пакараннях, што выносяцца парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства. Нягледзячы на велізарныя штрафныя санкцыі, крымінальную адказнасць, штотыдзень знаходзяцца "жадаючыя" парушыць закон. Вось чарговыя прыклады.**

■ **Аляксей Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

23 чэрвеня 2016 года інспектарамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі на возеры Янкішскае Пастаўскага раёна, паблізу в. Гродзі былі затрыманы два жыхары г. Паставы, грамадзяне: Казелька Уладзімір Мікалаевіч і Якян Іван Станіслававіч, якія з ужываннем забароненых прылад рыбалоўства, лёсачных сетак, здабылі 98 асобін розных відаў рыбы. Будучы затрыманымі на месцы злачынства з рыбай, сеткамі, лодкай парушальнікі ўсяляк спрабавалі адысці ад адказнасці. Следча-аператыўнай групе Пастаўскага РАУС, якая прыбыла на месца затрымання, парушальнікі спрабавалі растлумачыць, што рыбу яны не лавілі, а інспектары ўсё прыдумалі, пераблытаўшы іх з іншымі людзьмі. Следчым камітэтам распачата крымінальная справа па ч.4 арт.281 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Незаконная здабыча рыбы". Падчас папярэдняга расследавання віна затрыманых была цалкам даказаная.

22 верасня 2016 года суд Пастаўскага раёна вынесены прысуд, Казельку В.М. і Якяну І.С. прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на два гады са штрафам кожнаму ў памеры пяцідзесяці базавых велічынь, на суму 1050 (адна тысяча пяцьдзясят) рублёў, з адтэрміноўкай выканання пакарання ў дачыненні да асноўнага пакарання на тэрмін адзін год кожнаму, таксама спагнаць з Казелька В. М., Якяна І.С. у даход дзяржавы ў салідарным парадку 5 090 (пяць тысяч дзевяноста) рублёў у пакрыццё шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю.

20 верасня 2016 года суд Глыбоцкага раёна разгледзеў адміністрацыйны пратакол па ч.1 арт. 15.35 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь "незаконная здабыча рыбы" і арт.23.4 КоАП Рэспублікі Беларусь "Непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы дзяржаўнага органа" ў дачыненні да жыхара г. Докшыцы Барздыка Вячаслава Мікалаевіча. Суд пастанавіў падвергнуць Барздыка В.М. штрафу ў памеры 45 базавых велічынь, што складае 945 рублёў, а таксама спагнаць з яго ў даход дзяржавы 154 рублі 35 капеек у пакрыццё шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян не парушаць прыродаахоўнае заканадаўства.

**Аб усіх вядомых фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефоны: 8-02156-2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.**

## За незаконную высечку прыватнае прадпрыемства заплаціць амаль сем тысяч рублёў

**Прыватнае прадпрыемства з Брэста незаконна спілавала 374 дрэвы ў Целяханскім лягасе. Па словах вальшчыкаў лесу, яны захапіліся і не заўважылі, як апынуліся на тэрыторыі суседняга лягасу, піша "Беларусь сегодня".**

Намеснік начальніка Брэсцкай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Сяргей Штык распавёў, што ў лесе прыватнікі працавалі на законных падставах:



*Здымак з сайта інспекцыі*

– Прадпрыемства мела дазвол на нарыхтоўку драўніны ўздоўж лініі электраперадач у Ганцавіцкім лягасе. Аднак вальшчыкі так захапіліся, кажуць, што не заўважылі, як прайшлі лішніх 200 метраў тэрыторыі Целяханскага лягасу.

Незаконную рубку выявілі інспектары Бярозаўскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Шкода, якую давядзецца кампенсаваць прадпрыемству за 374 спілаваныя дрэвы аб'ёмам 128 кубаметраў — 5,7 тысячы рублёў. Плюс тысячу рублёў штрафу.

